Речи суть трудные мне ко познанию... путя орлова по воздуху летящего и путя вужа по каменю ползущаго...

Франьцішак Скарына ПС, 46


# АКСАМІТНЫ ЖАХ

INTERNATIONAL EDITION

м. Гомель 1999 рок, сакавік месяц. №6 (дапоўнены)


**Ад рэдактара...**

А й сапраўды, кінуць бы мне свае пралетарскія заняткі, забыцца што такое працоўны тыдзень і, ня ведаючы ані клопату, ані часу, выправіцца з гораду да гарадзішча (што далёка не адное й тое ж) па старым гасьцінцы праз Рудні ды Гуты, кійком зьбіваючы пыл з прыдарожных будзякоў, сунуцца гэтак з песьняю пад носам, з бязьлітасна чорным саганком на заплечніку колеру выжаўрэлай гімнасьцёркі. І йдучы, мець мэтаю ўпаляваць цмака, падаклёраваўшы жонцы натрэсьці калючак з ягоных космаў на абярогі, дачушцы — медзяных манэтак, бо манэткі тыя былі ў руках каралёў і каралеўнаў, а ўсім абедзьвум — проста вярнуцца хутчэй. І верыць хочацца, што нідзе не прарве бензаправод, як было гэта ў Добрусскім раёне, калі АІ-76 шыбаў угару пругкім струмянём, заліваючы навакольле; што зямелька нашая будзе чыстаю і ня будуць канаць тут ані жабка, ані яшчарка, ані жучок-павучок.



**Выява вужа**

**Генадзь Лапацін**

# Ё такі Вуж...

**Сёньняшні аўтар дастаткова павандраваў па Веткаўшчыне ды той Браншчыне, што дагэтуль падпадае пад Расею, сабраўшы багата фальклёрнага матар'ялу, які дазваляе вызначыць і сярод паўзуноў таго, хто ўсім верхаводзіць.**

**... І заляцеў Вялікі Цмок у Веткаўскія абшары, і набыў ён сабе тут вялікую радню ў выглядзе вужоў ды вужанятаў, гадынь ды сьлівўняў. І гавораць пра яе рознае: дзе яна "падкалодная" і "падтынная", дзе кідаюць у твар крыўдзіцелю "гад цябе выпладзіў", а дзе займае яна мейсца дамавіка (ці дамавога). А сам Вялікі Цмок, згодна з тэкстам духоўнага верша, займае мейсца Зьмія, знаёмага нам па іконе "Чудо Георгия о Змии"... Але пакінем благое да іншага разу, а зараз прасьпяваем нашчадкам Вялікага Цмока панегірык-трыпціх, згадаўшы былічкі, падслуханыя намі ад бабулек...**

...І ў хаце вуж ё дамавы. Я раз бачыла ў сваёй хаце, у старой. Пад сарай палез. Як у каго дзеці ё, асобенна па лясах, так дажэ дзяцей пасодзяць, нальюць малако, кашу, так яны жменькамі ядуць зь місак. І ён падыдзе, як німа нікога, і ён зь імі есьць зь міскі... **(Пачутае ў неглюбскім пасёлку Свабода ад Карпянок Вульяны Мікалаеўны, 1930 г.н.)**

...Дамавой - эта хазяін у доме, вот, напрымер, вужы жывуць у доме. На маём вяку ўжэ была. Жыла я ў агародах, а патом пераехала сюды. Іду з работы, а мяне цягне толькі ў старую хату зайсьці, толькі туды. Я стала на жэншчынах гаварыць. Мне адна жэншчына гаворэ: "Ты вот, увайшла ў новую хату, а дамавога з сабой не пазвала". Я гавару: "А як? Як нада была зваць?" - "Нада была так сказаць: "Дамавой, пойдзем са мной дамой". Тры разы. Ідзі ў тую хату і так скажы". Перахрасьцілась. Так сказала. І ўсё. Я хадзіла туда і на гарод, і мне не хацелась туда ісьці. А то цягне мяне толькі туда зайсьці. Зайду, патом сюда. Я ў яе спрашываю: "Што такое дамавой?" Гаворе: "Дамавы - эта ё такі вуж. Ён жыве. Ён не злаўрэдны. Ён нікога не абіжае". **(Пачутае ў вёсцы Малыя Нямкі ад Ігнаценкі Марыі Ягораўны, 1938 г.н.)**

... Нашы харашо жылі, а суседзі! так багата! У іх скот вёўся, маслабойка ў іх, сад быў бальшы! Такія коні, што ні ў каго такіх каней не было, аж блісьцелі! Ніхто не замечаў, а папка мой замечаў: "Вышаў я вечарам ва двор, і такі во клубок, аж сіяет як серабрысты, і к нім ва двор спусьціўся." **(Пачутае ў вёсцы Барба ад Кірыленкі Ірыны Хведараўны, 1932 г.н.)**

**Матарыялы былі сабраныя ў часе фальклёрна-этнаграфічных экспедыцыяў Веткаўскага музэю народнае творчасьці. Арыгіналы запісаў захоўваюцца ў фондах музэя.**

**Цмачыная тэма для нашага аксамітнага выданьня ці не стрыжнявая, здаўна зьнітоўвае яна розных, часам антаганістычных людзей, якія ўпэўненыя ў адным: яна ёсьць прадвесткаю новае культурнае сітуацыі, што ў будучыні ажывіць наш традыцыйна аціхлы рэгіён. Гэтак дынамічна працягваючы разгортваць тэматыку, зьмяшчаем зацемку аднаго з прадстаўнікоў беліцкага кола дасьледчыкаў, які сам не прыносіць матарыялы — прысылае сувязнога.**

Яфрэйтар Ліфаноускі

# Няма ніякіх Цмокаў?

Пра тое і дзяды баялі і бабулькі сьпявалі ў песьнях: чэрвеньскімі вечарамі цёплымі і золкамі нерухомеюць цмакі ў гушчарах, слухаюць утрапёна, як шчоўкаюць-цьвохаюць салоўкі. Тут і чалавек можа заслухацца, ня тое што цмок. Ці не за дзівосную здольнасьць сьпеўную ўпадабаў магутны арганізам драбнюсенькую птушачку, якой за лістком ня ўгледзіш, дзе яна там?

Баюры[*] ды й толькі. Стары Цімох сказаў, што цмок носіць птаха ў космах, дзе той віе кубельца сваё салаўінае. Але ці паверыў я ў гэтае сьведчаньне? Зацікавіўся, канешне, але й засумняваўся, бо да таго часу памёр стары Цімох на руках у брата свайго, гэтаксама Цімоха, а суседка Сьцепаніда адгаворвала мяне ад пошукаў: “Ось угледзіць цябе цмок ды як дасьць сваёй булдавешкай... Як думаеш, каму будзе горай?” Тады я толькі плячыма пацiснуў, хоць зразумеў, каму, але ад свайго намыслу ані адрокся, – рушыў шарай гадзінаю на сожскія паплавы, дзе, як меркаваў, сноўдаюцца, жуючы хмельныя шышкі, насскія беларускія дыназаўры.

Але чаму дыназаўры? – гэтак запытаўся ў мяне рэдактар адной рэкламнай газэты, паказваючы свой маскоўскі акцэнт, ды толькі адмаўляцца ад прапанаванага сюжэту не выпадае, таму аб дыназаўрах гаворка адмысловая.

Ня надта разьбіраючыся ў назвах урочышчаў, блытаючы Кальнік, Глушэц, Астроўкі, я паліў зыркае вогнішча, піў крамнае віно, сьпяваў народныя і бэнээфаўскія песьні - карацей, рабіў такі гармідар, каб зьвярнуць на сябе ўсю цмачыную ўвагу. Ды дарэмна. Адно стары Карпа пад раніцу выйшаў на мае каардынаты. Ён сунуўся, бадзёра памахваючы вудою, ветэран партызанскага руху апошняй вайны.

– Няма ніякіх цмакоў! – адчаяна роў я, скалеўшы ды сьпўшыся ўшчэнт. – Панапрыдумлялі сабе трафеяў і распавядаеце кажнаму прыбышу-турысту, а пасьля цешыцеся са свае кемлівасьці.

– Палік[**] ты калгасны, – горасна казаў стары Карпа, хістаючы галавою, - зыйшлі яны адсюль пасьля таго, як спалілі брыгаду меліяратараў, што прыбылі спрамляць нашую рэчаньку. Натура ў іх такая - не трываюць паху палёных камбінезонаў. Калі ня верыш, за ваколіцай стаяць два бульдозеры пагарэлыя.

Гэта было праўдаю, бульдозеры сапраўды стаялі. І ні толькі гарэлыя, але й пагнутыя вялікай сілаю, а я між тым спытаў Карпу: “А сам та ты, дзеду, ці бачыў цмока?”

– От! Я, ды каб ня бачыў?! Такой жа парою спыніўся я, на лісапеце ехаўшы, каб апону падкачаць; толькі прыладзіўся, толькі нiпель адвярнуў – як завуркоча нешта ў хмызах. Як пагледзеў я на тую вуркатыню: галава – болей за кампрэсар, грыва калматая, рудая, пашчанкамі[***] совае, як бы смокча нешта...

– Дзед, а дзед! А мо то лось быў?

– Ведаеш.... Сам ты лось.

Гэтак трохі пакрыўджаны, зьняверыўшыся, але нескароны, сеў я на арбон[****], каб да Гомелю даехаць; а як прыехаў, памыўся і лёг спаць.

---

[*] Баюры – дзівосы.

[**] Палік – укапаны слупок. Тут – у значэньні “дубина стоеросовая”.

[***] Пашчанка – ськівіца (для аматараў расейскае мовы — челюсть).

[****] Арбон – аўтобус. Маецца на ўвазе прыгарадны, рэйсавы, пераважна ЛАЗ.

**Разьмяшчаючы такія вось развагі, рэфлексіі, інстынктыўныя зацемкі, не забудземся і пра існаваньне мастацкае літаратуры, што напампоўвае цмачыны вобраз пафасам, гратэскам, сатыраю, абсурдам і гэтак далей па нарастаючай, цалкам альтруістычна, без патрабаваньня ганарараў, без пазёрства, зухвальства і фанабэрыі.**

**Верш, чытаны і са сцэны ў актавай залі, і ў гарадзкім асяродку, і на кухоньцы, кананічна ўспрымаўся і ўвесь гэты час пакрыёма рыхтаваўся да друку.**

... севіч

## Распавядала бабця...

Распавядала бабця гісторыі пра цмокаў,
Іх прыкрыя ўчынкі праўдзіва выкрывала.
Хаваўся я пад коўдру і мацюкаўся ціха.
Віхуры гэтых цмокаў кружылі над фальваркам.
Мой дзед - вялікі шляхціц, трымаў цмакоў у жаху,
Сваёй турэцкай шабляй іх шаткаваў заўзята.
Але няма ўжо дзеда, а бацька ў астрозе,
За тое, што на цмоках на Сойм зьявіўся ліха.
Я ж выйшаў не ў дзеда і пагатоў ня ў бацьку.
З адукаваным цмокам я гутарыў у альтанцы.
Ён колісь лётаў у Мюнхэн, спыняўся-быў у Празе,
І вытрымкі з Сьпінозы* мне цытаваў выразна.
Зьбіралі мы гэрбарый. На шаблях фэхтаваліс,
Асвойвалі майстэрства варыць з гарбузаў піва.
Мы на басэтлі гралі, складалі пастаралі,
Але так неўзабаве насунулася восень.
Зьляцеў той цмок у вырай, напэўна ў Эгіпет.
На фоне пірамідаў ён на басэтлі грае.
А я пайшоў на поўдзень па Гомельскай дарозе,
Пайшоў праведаць бацьку, які сядзеў у астрозе.

1992

---

* Борух (Бэнэдыкт) Сьпіноза (1632-1677) — галандыйскі філёзаф і мысьляр.




**Тут дужа арганічна дапасаваўся-быў клясычны тэкст, да верша сытуацыйна падобны: “...ходзіць шляхта Канстытуцыю славячы** (Маецца на ўвазе Канстытуцыя 3 траўня 1791 року), **мяркуе, якія кунтушы надзець: блакітныя ці салатавыя; страляе з гарматак і доўга выводзіць вэнзэлярныя подпісы на мануфактурнай паперы...”(Са збору Якава Пятровіча Стывенсана, N 458/37/0056 XL, стар. 327).**

**Але зь гісторыі нам вядома, што гэткая ідылія, пратрываўшы нядоўга, была скасаваная расейскай імпэратрыцаю Кацярынаю ды таргавіцкімі канфэдэратамі, якім яшчэ не аднога разу адрыгнулася іхняя здрада і, між іншым, самым уплывовым з іх якраз цмакі помсьцілі долей усіх, прыпамінаючы страту пэўных прыярытэтаў.**

Кастусь Сякера



# Сутыкненьні з панам Абуховічам

**Сапраўды, у прыватным архіве Якава Пятровіча Стывенсана, мясцовага гэнэтыка, культуроляга-практыка, фізіка, правадзейнага сябра Расейскага гэографічнага тав-ва, арнітоляга-аматара, краязнаўцы і дасьледніка архітэктуры, літаратурнага крытыка і гістарыёграфа, аўтара шэрагу райцэнтраўскіх інжэнерных збудаваньняў, мадэльера сьпецадзеньня і г.д., зьберагаецца эсэ аднаго з мясцовых шчыроўцаў катакомбнай маразматычнай літаратуры, слыннага сваёй балотнай лірыкай і тваністым архаічным гумаркам, даўняга барацьбіта з марксістымі, Кастуся Сякеры, у якім ён сам, з уласьцівай толькі яму ўпартасьцю стараецца разгледзець вобраз чалавека даўняй эпохі, засноўваючыся на дакументальным, факталягічным і маразматычным матар'яле. Адрасуецца аматарам даўніны, сьведамым прыхільнікам гістарычных паралеляў і камічных парадаксаліяў. Падаецца згодна старабеларускай выдавецкай традыцыі "як чуецца так і друкуецца".**

Ці будзе элекцыйны Сойм яшчэ больш элекцыйным? Ці паверне Масква з дзьвох "перстов" да трох пальцаў? Ці напіша свой чарговы ліст Мялеці Сматрыцкі*? Вось нямногія з тых пытаньняў, што маглі хваляваць нейкага Абуховіча, пра дзейнасьць якога я так і не распавёў; маглі, але хвалявалі яны іншых людзей, якіх увогуле мала што хвалюе. А так і дзядзька мне раіў, і брат адной знаёмай афэрысткі казаў: "Не чытай ты гэтых разумных кніжак, лепш ідзі работай, альбо раскажы пра нашага родзіча пана Абуховіча, кандытара і чарнакніжніка, чый помнік "васьмерык на чацьверыку" дзеліць могілкі ці не напалам". А бацька дадаў: "Не толькі дзеліць, але і зьяўляецца дамінантаю". У сэнсе: пан Абуховіч зьяўляецца дамінантаю для маладога пакаленьня.

Ня ведаю, што з таго атрымалася, але тады адразу прыйшло на розум: калі ўсе сямейныя добрым словам адгукаюцца пра пана Абуховіча, кандытара і чарнакніжніка, дык сапраўды, ці не ўзяцца за паступовае раскрыцьцё ягонага яркага вобразу, бо каб брацца за што іншае, трэба мець залатыя рукі. І тут як у нас у раду вядзецца: сказана — зроблена. Таму я болей за тыдзень не знаходзіў сабе мейсца, а калі знайшоў, было ўжо позна, ластаўкі лёталі нізка-нізка, ў руках у мяне была валізка, а Цэнтральны архіў, дзе мяне зачынілі нанач, адразу неспадабаўся, бо там было мала карцінак. Па-першае, мне падумалася; па-другое, мне падумалася, што някепска падумаць пра што-небудзь іншае; па-трэйцяе, як толькі я падумаў пра гэта, ў магістрацкіх архівах, зьлёкку пакусаных маскалямі, знайшоўся родавы герб Абуховічаў з маляваным дадаткам і шыкоўным вершаваным апісаньнем,частку якога спецыялісты яшчэ здолеюць разгледзець, калі не збяруцца разам

**"...у блакитнем поли две косы**
**а посередине волосы"...**

Другую частку прыводзіць не варта па прычынах, мяркую, вам зразумелых. Гербавы шчыт няправільна-шляхетнае формы, аздоблены пагнутым шлемам з бусьліным пер'ем, апынуўся ў руках нейкага геральдычнага вылюдка невядомага племені настолькі пагана нарысаванага, што сэрца сьціскаў люты боль, а рукі апускаліся, пазбаўляючы ахвоты рабіць хоць нешта, ў тым ліку й падём з пераваротам. І тады я бег у музэй. Сілкуючыся старэзнымі бутэрбродамі, запіваючы іхнюю сіроцкую плоць бутэлечным "Бурацінам", я намагаўся ўшчыліцца ў глухі кут, адкуль часам назіраў, як несьвядомыя наведнікі калупалі экспанаты пальцамі й нюхалі пячаткі Вялікага Княсства Літоўскага, Рускага, Прускага і Жамойцкага. Гледзячы на ўсё на гэта, я ўзгадваў словы пана Абуховіча, кандытара і чарнакніжніка, кінутыя ім на вецер у ветраны дзень: " Прозвище моё у книзех местских магистрацких першим стояло, слово же моё завжды было апошним." А сапраўды, якім было апошняе слова пана Абуховіча? І ці было яно, бо як казаў адзін знакаміты чалавек (імя якога данесла гісторыя, але забылася літаратура), пан Абуховіч наогул гаварыў мала, а калі паміраў, дык пісарчук, які павінен быў адзначыць апошнюю ягоную волю, памёр раней. І толькі пасьля сьмерці стаў ведамы найкарацеенечкі панегірык, нарэшце напісаны ў тыя далёкія часы, далёкія ад мастацкай крытыкі:

"А то славны ты пан Абухович
Значно лепшы чим пан Кондратович."

"Але хто такі гэты пан Кандратовіч?" — крычаў з другога берагу ракі яшчэ адзін, тутэйшы кугачнік** Кандратовіч. Каб ведаў я, дарагі мой рачны пралетарый, дык гэта прасьвятліла бы ўсе перпендыкулярныя мейсцы абуховічавай біографіі, бо толькі ў адным з нямногіх лістоў салігорскіх шахцёраў да слуцкіх ткачыхаў мы сустракаем: "Пан Кондратович — сябра пана Абуховича". Але ці той гэта Кандратовіч, альбо ягоны родзіч — высьветліць не ўдалося, як не ўдалося высьветліць, ці той гэта Абуховіч, якога мы заўсёды маем на ўвазе.

І ў той момант, калі я меў на ўвазе пана Абуховіча, сустрэўся мне дасьледнік белых плямаў у нашым цьмяным мінулым, зірнуўшы на якога забываліся й белыя плямы і сінія кругі, і бачыўся толькі працяглы алкагольны слалам гэтага краязнаўчага чалавека. Але негледзячы на свае пяцьдзесят, на мае дваццаць пяць, на сяброўскі чырвонец, ён дагаварыў, шавелючы ротам у тахт языку, што пан Абуховіч, кандытар і чарнакніжнік, зімою, па словах нейкага Гаштольда Жабы***, меў: "....шапку футры вовёрчиной и оксомитом подбитую на ней же яркая оздоба капусткою...." Пасьля, ужо ўпаўшы, ён дадаваў: "А рэктар Друміла б'е сваю жонку пугаю, распрануўшы да голага цела, і любіць, каб яна рабіла тое ж самае, толькі наадварот і таршэрам", і г.д. "Канешне, — падумаў я, — тут і мама мія, і бацька Махно.

---

* Мялеці Сматрыцкі (1577-1633) - добры пісьменьнік-палеміста, царкоўны дзяяч; вучыў, спрачаўся, складаў кнігі, пісаў лісты.
** Кугачнік - баканшчык; чалавек, што запальвае агні, вызначаючы рачны фарватэр.
*** Гаштольд Жаба - невядомая постаць сярэдзіны - канца XVII ст.
Усе прыведзеныя вытрымкі з дакумантаў пачарпнутыя з правага крыла Цэнтральнага Архіву.




**Напэўна, чытачу, Ты абурыўся рэзкім абрывам дакументальнага тэксту, але, нашыя выдавецкія мажлівасьці прагназуюць гэткую рэзкасьць, прычым газэтка астаецца носьбітам ідэяў дабрыні, чуласьці, спагады, а мастацкі рэдактар увогуле аматар пляўных лініяў. Дык ці кепска табе стала, чытачу, калі ты праглынуў абрывісты канчатак, ці не падрапаўся войстрым краем? Можа, гэта ўсё ж лепей, чым нашае, няхай і аксамітнае, маўчаньне.**

**Было й такое: ў сэрыі "Першая кніжка паэта" выйшаў зборнічак вершаў Ларысы Раманавай пад назваю "Аддай асалоду Богу", што для ўсіх аматараў духмяна-мядовай вясковай паэзыі было радаснай навіною. Апраўдаліся нашыя спадзёвы: у кніжачцы надта шмат сьціплых, міласных, настраёвых вершаў (як казаў адзін мой знаёмы афэрыст: "Значна болей, чымся павінна быць"), якія, саромеючыся афсэтнага друку, тояць у сабе зусім непрэстыжную цяпер чуласьць-цеплыню. Ну і напрыканцы адзначу, што ў адным з наступных нумароў газэткі, калі яна выйдзе, канешне** (цяпер мы часта ўжываем гэта славазлучэньне... Рэд.), **цэлая паласа ў распараджэньні шаноўнае аўтаркі.**

Ларыса Раманава

## Вужовы Кароль

І часта ў сьне не хапае паветра
Ты ляжыш перавіты ліянай
На халодным іржавым скляпеньні
І вуснамі чуеш салодкую кветку Лотаць
І не хочацца болей волі
І не хочацца нават сьмерці
Ты залез аж на крону вяза
Вязень
Цар без царства
Вужовы Кароль

1994

## Танцам бязмоўным...

Танцам бязмоўным бясконцым
аповяд ты пачынаеш
дыханьне ліловага вечара
кветку Сьвятога Яна
ўплятаеш у валасы
зьніклыя гукі
цемра як збан з вадою
межы маўчаць
і толькі ты адзін
(магчыма вас двое)
на полі пад Месяцам ходзіш
з кімсьці далёкім вольным
шэпчаш
гаворыш

1995



**Развольна рушыць у абшарах: гаі, стаўкі з каровамі па берагох, сіні ўдалы лес, перапёлкі з-пад ног і дарога віецца вужакаю сярод сенажацяў — у кожнае дарогі ёсьць канчатак, і ў вужа таксама, якім бы доўгім ён ня быў; і ў нашых тэкстах пастскрыптум на кончыку хваста. І падаючыся ў густыя абдымкі лесу, вільготна-балацянага ў гэтых краёх, памятай ня толькі пра цмокаў, але й пра гэта....**

## Замова ад вужа

Блаславі, Госпадзі, памажы вужыныя жалы вымаўляць і Госпада Бога на помач прызываць.

Баравы Сандамір, махавы Самасцей, сунімайця сваіх слуг. На моры на кіяні ляжыць камень кірбіч, на камені ляжыць вужу. Вужу, чэсны мужу, сунімай сваіх слуг: і лятучых і паўзучых, і падтынных і крапіўных, і палявых і баравых, і гнаявых і земляных — вынімайця сваё жала з раба Божага. Як ня будзеця вынімаць, прыедзя к вам Спас спасіталь з кап "ём, з ружжом, із мячом із галавасечам, то вас і ссячэ і зрубая, і на гні папаля, і дым разьнясе, і попел разьмяце. Дай Госпадзі на помач, Прасьвятая Маць Бугуродзіца.

**Запісаў Я.Р.Раманаў у в.Добруш Гомельскага пав.; а гэтаксама ў в.Дзятлавічы Гомельскага пав. ад Нікіцінай М., 51 год. (Романов. с.122, NN 347,350; с.130, N 363// паводле кнігі "Замовы" сэрыі БНТ, Мн., 1992 г.)**

«Ну што мы яшчэ можам сказаць пра вужоў? – спадар рэдактар ледзь не грыз свае літаратурныя прызы ад адчаю, гэтак хацеў запоўніць пустое мейсца у газэтцы, – Ніхто дадому ня пойдзе покуль вужоў ня вычарпаем!» Таму, як гаворыцца, «да позьняе ночы гарэў агеньчык», покуль знаходлівы, але сонны (**ці наадварот – Рэд.**) Знаёмы Вам выпадкова гартаўшы кніжку Я. Сахуты «Беларускае народнае мастацкае ковальства» (Мінск, Полымя, 1990) не знайшоў спасылку на акадэміка М.Нікольскага: «У Рэчыцы і ў весках вакол Рэчыцы яшчэ ў 1929 г. сустракаліся на варотах жалезныя скобкі ў выглядзе вужоў і жалезныя клямкі з галовамі вужоў і бараноў, зробленыя рэчыцкімі кавалямі». Ўсе з палёгкаю уздыхнулі, але было ўжо позна. Ў сэнсе было сапраўды позна, ды толькі бяз верша на прыканцы ўсяроўна не абыйшлося, хоць аўтар быў усяроўна супраць, бо ягонае імя занадта часта сустракаецца на аксамітных старонках прымушаючы маладых творцаў шукаць прызнаньня ў іншых выданьнях. Але ўсяроўна, у ціхую зорную ноч на апошняй старонцы псіхадэлічная туга па схованцы, да якой так і ня здолеў падабрацца...

**Валерыч**

І вабіць позірк дальні аганёк
Вугольчыкам закінутым уночы
Сьвяча, газьніца, зыркі камялёк?
І мкнуцца ногі і ня зьвесці вочы
І таямніца вабіць на зьмярканьні
Ў прадоньні легендарнага става
Жыве акамянелае паданьне
Як у муры – баранья галава...

«Можа ў наступным нумары пра бараноў напішам?» – сказаў Валерыч зыходзячы з ганку, але яго ўжо ніхто не хацеў слухаць...

Рэдактар: Т.Буль-Бутэліч, Макетоўшчыкі: Чы Жоў, Алеська Марцін, Мастак: А.Скідан © Орыгінальна idea: Творчая кампанія вольных мастакоў "Магілка". У газэтцы выкарыстоўваліся віньеткі Г.Нарбута. Рэдакцыя надта ж удзячная малдзёвай краязнаўчай суполцы «Талака» за супрацоўніцтва і падтрымку. Папера афсэтная. Друк трафарэтны. Наклад ас. Дозволено цензурою 1999 г. м. Гомель